прынамся ў нас на „Крэсах“,—і пры ўрадзе п. п. Грабскага Тугутта?!

### Сьвяточныя дні ў Польшчы.

Сойм адкінуў прапазыцію ўраду—скасаваць сьвяты: другі дзень Каляд, Вялікадня і Тройцы і—2 лютага. Усе гэтыя сьвяты астаюцца надалей, як было дагэтуль.

### Працэсы выданых Соймам паслоў.

„Słowo Polskie“ паведамляе, што справы выданых Соймам 4-х украінскіх паслоў маюць разглядацца ў пачатку сакавіка—у Крэмянцы.

### Таргова абмен паміж Польшчай і ССРР.

„Экономическая Жизнь“ падае цікавыя лічбы... кантрабанднага абмену тавараў на польска-расейскай граніцы.—За 10 месяцаў 1924 году легальны ўвоз у ССРР быў на 7,364.000 руб., а вартасьць кантрабанднага ўвоза за той-жа час дайшла до 14.061 000 руб., гэта значыць была амаль не ўдвая больш!

### Новы замах—на параховыя склады ў Львове.

Польскія газэты пішуць, што ваеннаму патрулю ўдалося перашкодзіць падрыхтаванаму ўзрыву вялізарных складаў амуніцыі пад Львовам. Схопленыя каля дроту, працягнутага для ўзрыву электрычным токам, двое людзей — Штром і Мацюля, як пішуць, мелі пры сабе бальшавіцкія грошы (?), расейскія паперы, дакумэнты ў расейскай мове і запасны дрот, але яны абодва пярэчаць абвінавачаньню.

Ваенныя экспэрты сцьвярдзілі вялікую небясьпеку ад магчымага ўзрыва, хаця, як пішуць газэты, паложаны быў пад мур складу толькі канец дроту.

### Крывавыя разрухі ў фабрыцы ў Лодзі.

24 лютага ў фабрыцы Шайблера ў Лодзі—у сувязі з выдаленьнем часьці работнікаў і пералажэньнем на астаўшыхся ўсяе работы выдаленых—узьняліся разрухі, у часе якіх цяжка ранены дырэктар фабрыкі Кокель.

### Нячуванае надужыцьце.

Паліцэйская ўлада ў м. Лешна (ў Пазнані) самавольна і бяз усякіх падставаў аб‘явіла вар‘ятам рэдактара мясцовай польскай радыкальнай газэты п. Мігдалевіча (ведама-ж, за яго няпрыемную пісаніну ў газэце!) і паслала да яго кватэры агентаў, каб яго арыштаваць і пасадзіць у дом вар‘ятаў... Але рэдактар ня даў маху — уцёк на вёску, адкуль паехаў у Варшаву і там дабіўся таго, каб яго агледзелі дактары-спэцыялісты і выдалі яму пасьведчаньне, што ён зусім здаровы...

Аднак, ведаючы, што паліцыя яго места знойдзе іншую прычэпку, каб на ім памсьціцца, ён дабіўся ў Варшаве, каб міністар унутр. спраў забараніў паліцыі яго чапаць.

Але на помач паліцыі прыйшла пракуратура, якая пачала знаходзіць проці яго розныя грахі... І вось бедны рэдактар, абяліўшыся перад адміністрацыйнай уладай у сваім „вар‘яцтве“, пачаў цяпер бараніцца ад напасьцяў судовай, — абіваючы парогі ўжо не міністэрства ўнутр. спраў, але справядлівасьці.

У сувязі з гэтай справай гожа прыпомніць, што каліс ведамы расейскі мысьліцель Чаадаев быў-за свае знамянітыя „філязафічныя пісьмы“ — указам самога Мікалая I абвешчаны вар‘ятам і пасаджаны пад „хатні арышт“. Але-ж тое зрабіў „неабмяжаваны самадзержца“, які аднойчы выдаў „высочайшае повеленіе“ нейкую — „ашуканую“ ахвіцэрам паненку лічыць і ўважаць, як раней, „девіцей“ (нявіннай).

## Заграніцай.

### Сьмерць прэзыдэнта Нямецкай Рэспублікі.

28 лютага скончыў жыцьцё прэзыдэнт нямецкай рэспублікі Эбэрт. 4 сакавіка цела нябожчыка перавезьлі ў Гэйдэльбэрг, дзе ён урадзіўся і дзе назаўтрае адбыліся ўрачыстыя пахароны.

Вельмі цікавая біяграфія памершага прэзыдэнта. Надобна другому знамянітаму правадыру нямецкай сацыял-дэмакратыі, Бэбэлю, і Эбэрт радзіўся ў сям‘і работніка і сьпярша працаваў і сам у майстроўні сёдлаў. Выраśшы, малады работнік пачаў арганізацыйную працу ў сваім фаху. Пасьля пакінуў фах сядлярскі і пачаў працаваць у сацыял-дэмакратычнай газэце ў Брэмэне.

У хуткім часе Эбэрт высоўваецца на кіраўнічыя становішчы ў сацыялістычнай партыі Нямеччыны і ўваходзе ў яе прэзыдыум, разьвіваючы шырокую арганізацыйную працу. У 1913 г. яго выбіраюць наступнікам Бэбэля на становішча галавы ўсяе п ртыі. У часе вайны Эбэрт разам з Шэйдэманам занялі пазіцыю—„абароны краю“ і—падтрымлівалі ўрад кайзэра. Пасьля выбуху рэвалюцыі яго група вяла вострую барацьбу з камунізмам.

У 19 9 нацыянальнае сабраньне ў Вэймары выбрала Эбэрта тым часовым прэзыдэнтам рэспублікі, а ў 1922 г. па пастанове партыяў—сацыял-дэмакратаў, дэмакратаў, цэнтру і людоўцаў — ён згадзіўся быць прэзыдэнтам да 1925 году, калі павінны былі адбыцца ўжо першыя нармальныя выбары прэзыдэнта.

Да гэтай хвіліны Эбэрт не дажыў.

Эбэрт быў самавукам, ня скончыў нічога, апрача пачатковай народнай школы, але сам сабе і з сябе вырабіў бясспынная і ўпорнай працай высока-інтэлігентнага і маральнага як чалавека так і грамадзяніна.

Добра таму краю, дзе дарога да найвышэйшае ўлады адчынена таленту, энэргіі і чэснасьці, незалежна ад стану і паходжаньня, з шырокага і глыбокага мора працоўнага народу.

### Выбары новага прэзыдэнта.

Нямецкая канстытуцыя прадугледжывае выбар прэзыдэнта на 7 гадоў асобным усенародным галасаваньнем. Выбары гэтыя маюць адбыцца 26 красавіка. Маюць быць выстаўлены 4 кандыдатуры: Маркса (цэнтр, дэмакр і сацыял-дэм.), Лютэр (правіца), Куно (прамыслоўцы) і няведамы йшчэ кандыдат камуністаў.

### Сьмерць Брантінга.

Памёр вядомы правадыр швэдзкіх сацыялістаў, былы прэм‘ер ураду Швэцыі і прадстаўнік яе ў Лізе Народаў.

У Радзе Лігі Брантінг быў адным з найбольш актыўных і ўплывовых дзеячоў і—найбольш шчырым і шляхотным абаронцам правоў малых народаў і меншасьцяў — ад нацыянальных дзяржаўных жываедаў, стварыўшых гэтую „акцыйную суполку“ ўзаемнай асэкурацыі добрага апэтыту і спакойнага травеньня.

### Сэсія Рады Лігі Народаў.

У гэтым месяцы сакавіку мае адбыцца вельмі важная чарговая сэсія Рады Лігі Народаў, якая павінна вырашыць цэлы рад міжнародавых спраў і спрэчак. Важнасьць гэтай сэсіі будзе яснай, калі мы коратка пералічым галоўныя з гэтых спраў. Дык вось праграма сэсіі: справы англа турэцкага канфлікту за Мосуль і англа-ягіпецкага за Судан, на разглядзе якіх будзе прысутны сам Чэмбэрлен; справа грэцка-турэцкага канфлікту за патрыярха; справа баўгарскай скаргі на турэцкі ўрад—за гвалты над баўгарскай меншасьцяй у Турцыі; урэшце—аж цэлых 9 пытаньняў ці спрэчных пунктаў—у справе польска-гданскага канфлікту.

Сэкрэтарыят Лігі Народаў сьпярша паставіў быў першым пунктам праграмы гэтае сэсіі справу „жэнеўскага пратаколу“—аб „бясьпечнасьці, разброеньні і арбітражу“, які так хоча аканчальна зацьвярдзіць Францыя. Але англійскі мін. Чэмбэрлен, які ўжо пачаў зьбірацца ў Жэневу праз Парыж, заявіў рашуча, што яго ўрад „яшчэ не гатовы“ да гэтага „Пратаколу“. Дык, відаць, гэты галоўны пункт, дзеля якога на апошнім агульным сабраньні Лігі была назначана сэсія Рады, будзе зьняты з павесткі апошняе.

### Таргова ўмова між Францыяй і Нямеччынай.

28 лютага ў Парыжу падпісана таргова ўмова, але толькі тымчасовая, паміж Нямеччынай і Францыяй.

### Англія і ССРР.

ПАТ наказуе: адказываючы на запытаньне ў Парляманце, Чэмбэрлен заявіў, што англійскі ўрад ня лічыць магчымым — у сучасных варунках—выслаць свайго пасла ў Маскву.

### Амэрыка і ССРР.

З Вашынгтону (сталіца Амэрык. Злучаных Штатаў) пішуць, што ўжо у тым тыдні прэзыдэнт Кулідж, сэнатар Бора і міністар загр. спраў Кельлёг маюць адбыць нараду з лідэрамі партыяў у Сэнаце ў справе прызнаньня ССРР.

### Грэцка-турэцкі канфлікт.

У сувязі з канфліктам з Турцыяй Грэцыя пачала рабіць заходы, каб увайсьці ў саюз з Югаславіяй, ды нават—на наступным зьезьдзе Малае Антанты—20—25 сакавіка — мае абгаварывацца справа ўваходу Грэцыі ў склад М.-Антанты.

У сувязі з апошнімі крокамі Грэцыі, а таксама—з паўстаньнем Курдаў,—Турцыя ізноў змабілізавала запасных з пяцёх новых гадоў.

### Канстантынопальскі патрыярх зрокся сану.

Як пішуць з Афінаў (сталіца Грэцыі), патрыярх Канстантын згадзіўся зьняць з сябе сан патрыярха, каб даць магчымасьць у Канстантынопалі выбраць новага і тым зьліквідаваць грэцка-турэцкі канфлікт.

### Студэнцкія разрухі ў Румыніі.

З Букарэшту паведамляюць аб зачыненьні Унівэрсытэту — з прычыны студэнцкіх разрухаў. Унівэрсытэт заняты паліцыяй і войскам. У часе

---

геомэтрыя, музыка, астрономія і навука ўкладаць каляндар.

Сярод прафэсароў Скарыны былі выдатны тагачасны вучоны Ян Глоговскі і Міхал Вяціславскі.

Апрача філёзофіі, Скарына цікавіўся ня мала тэолёгіяй і медыцынай. Тэолёгію мог ён знайсьці ў Кракаве і, відаць, у меру магчымасьці знаёміўся там і з гэтай навукай.

Значна больш клопату меў Фр. Скарына з мэдыцынай. Быў, праўда, у Кракаўскім Унівэрсытэце аддзел мэдыцыны, але, як кажа Лукашэвіч у сваей працы „Historja szkół w Koronie i w Wielkim Księstwie Litewskim (III. 1851 r. str. 27), аддзел гэты быў у заняпадзе і толькі ў 1526 г. быў выпушчаны першы мэдык. Вось-жа і Скарына, так як і іншыя студэнты Кракаўскага Унівэрсытэту, вучоную ступень доктара мэдыцыны павінен быў атрымаць заграніцай.

У 1506 г. Фр. Скарына пакінуў Кракаў і праз шэсьць гадоў негдзе вучыўся заграніцай тэолёгіі і мэдыцыны. Але гдзе—няведама. Тут недзе Скарына здабыў новую вучоную ступень—доктара „eximiazum artium“. Апрача навукі, Скарына прыглядаўся да культурнага жыцьця Эўропы і пазнаваўся бліжэй з друкарскай штукай.

Да слаўнай у той час вучэльні залічаўся ўнівэрсытэт у Італіі, у месьце Падуі. Найбольш ён славіўся мэдыцынай. Вось-жа наш Скарына ў 1512 годзе і прыбыў сюды. Вось, што даведываемся мы аб быцьці тут Скарыны з дакумэнтаў 1512 г. ў Падуі.

Прыбыўшы ў Падую, наш малады вучоны зьвярнуўся да заступніка прыора доктара Тадэуша Мусаті, які, відаць, пазнаўся на вартасьці гэтага Беларуса і заапекаваўся ім. Скарына жадаў экзаменавацца на доктара мэдыцыны.

Т. Мусаті склікаў сход прафэсароў мэдыцыны і азнаёміў іх, што з далёкіх краёў прыбыў у Падую дужа вучоны, але бедны, маладзян (**doctissimus juvenis pauper**), ужо маючы вучоную ступень доктара „**artium**“, па імені Францішак сын Лукаша, Скарына, Русін з Полацка (**dominus Franciscus Scorina de Poloczko Russenus**) і просіць дазволіць здаваць яму экзамен на доктара мэдыцыны дарма (**de gratia specioli ac amore Dei**).

Сход, выслухаўшы ўважна самога Скарыну, прыхіліўся да яго просьбы.

На другі дзень 6-га лістапада ў прысутнасьці 14 прафэсароў мэдыцыны адбыўся Скарыны папярэдні экзамен, які Скарына здаў дужа добра і быў дапушчаны здаваць экзамен далейшы — на доктара мэдыцыны.

Праз некалькі дзён, 9-га лістапада 1512 г., сабралася ў біскупскі палац уся мэдычная падуанская Колегія, і пачаўся экзамен Скарыны.

Усе прафэсары задавалі яму пытаньні, а Скарына ўсім адказваў нязычайна разумна і цьвёрда бараніў свае думкі. Ўканцы Скарына аднагалосна быў прызнаны доктарам мэдыцыны.

Гэтак стаўся наш Скарына на Усходзе Эўропы **першым доктарам мэдыцыны**, або, як ён сам падпісваўся: „**въ лекарскихъ наукахъ докторъ**“, ці так-жа: „**въ наукахъ вызволеныхъ и въ лекарскихъ докторъ**“.

Пасьля гэтага ўзноў заціраецца сьлед Скарыны. Малады доктар пашоў, пэўна, пяхатой дамоў, да Полацка, і тут пачаў шукаць грашовых спосабаў, каб распачаць друкаваньне так патрэбных Беларускаму народу кніжак. Пабываў ён такжа і ў Вільні, сталіцы Беларуска-Літоўскай дзяржавы і пазнаёміўся з многімі віленскімі мяшчанамі і братчыкамі, на кошт каторых пасьля і друкаваў свае кніжкі.

І вось, Скарына задумаў вялікую думку—перакласьці ўсю Біблію на тагачасную беларускую літэратурную мову і надрукаваць іх.

Дабыў сабе Скарына патрэбныя рукапісы і каля 1516 г. паехаў у Чэхію, да Прагі. Кракаў абмінуў Скарына, успамінаючы, відаць, сумны канец Фіоля.

У 1517 г. Скарына ўжо знаходзіцца ў Празе, дзе працуе над перакладам біблейскіх кніг і над іх надрукаваньнем. Знашліся асобы, што памагалі Скарыне, чым маглі. Прад усім былі яму памоцны, як грашмі, так, магчыма, і рукапісамі і маральнай парадай, віленскія мяшчане: Богдан Онькаў, Якуб Бабіч і інш.

Скарына залажыў у Празе ўласную друкарню і ў найлепшых нямецкіх майстроў заказаў зрабіць чаранкі (літары) і патрэбныя друкарскія прылады.

Кнігі выпускае Скарына ў сьвет адну за аднэй. Першым паявіўся найбольш патрэбны ў практыцы Псалтыр 6-га жніўня 1517 г., а за ім усе іншыя. Ад 1517 да 1519 г. г.—значыць за два гады,—Скарына ў Празе выпусьціў 22 кніжкі.

Ува ўсіх пасьлеслоўях Скарыны знаходзяцца выражэньні: Кніга выдана „**повѣленіемъ, працею и выкладомъ Скорины**“. Або яшчэ ясьней у пасьлеслоўі да кнігі Эсфір: „**выложена працею и вытеснена повелѣніемъ Скорины**“. А ёсьць і такія выражэньні: „**Казалъ есмы тиснути**“, з гэтага відаць, што сам Скарына, калі і ня быў складальнікам кніжак, дык ён перакладаў іх на беларускую мову і, магчыма, сам карэктаваў іх.

Аднак, праца Скарыны ў Празе па выданьні ўспомненых кніжак—у 1519 г. спынілася. Відаць, не сядзелася яму там, цягнула яго на Бацькаўшчыну. „**Люди**,--кажа Скарына,--**игде зродилися и ускормлены суть, по бозе, къ тому мѣсту великую ласку имають**“. Закласьці друкарства на роднай зямлі, відаць, было галоўнай мэтай Скарыны.

Дык пакідае наш друкар Прагу, забірае з сабой кніжкі, чаранкі і друкарскія прылады перабіраецца ў Вільню і тут у доме бурмістра Якуба Бабіча закладаець друкарню, у якой друкуе ў 1525 г. „**Апостола**“ і “**Малую Подорожную Книжицу**“.

І Вось, на гэтых дзьвёх кніжках на жаль і спынілася ў Вільні друкарска-выдавецкая і літэратурная дзеяльнасьць Скарыны. Што за прычыны? Напэўна няведама, але мусіла іх быць многа і featureрознага роду.

Прад усім сучасныя яму багачы—мяшчане не

